

**ТРАНСПАРТ У КРАІНАХ КАПІТАЛІСТЫЧНАГА ЗАНЯПАДУ**

У РУРСКАЙ ВОБЛАСЬЦІ (НЯМЕЧЧЫНА), ДЗЕ ЯШЧЭ Ў МІНУЛЫМ ГОДЗЕ БЫЎ МОЦНЫ РУХ ЦЯГНІКОЎ, ВЯЛІЗАРНАЯ КОЛЬКАСЬЦЬ ВАГОНАЎ БЯЗЬДЗЕЙНІЧАЕ НА ПРАЦЯГУ МНОГІХ МЕСЯЦАЎ



**ТРАНСПАРТ У КРАІНЕ САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА**

[illegible] ДЛЯ АДПРАЎКІ Ў ЗБОЖЖАСАЎГАСЫ

Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

# Чырвоная Беларусь

Верасень 1932

№ 17

Адрас рэдакцыі:
Менск, Савецкая, 59.
Тэлефон 17—09

## Я н к а  К у п а л а

### Сыходзіш, вёска, з яснай явы...

Як сон маркотны, нежаданы,
Сыходзіш, вёска, з яснай явы,
А твой народ вернападданы
Імкнецца, скінуўшы кайданы,
Да новай долі, новай славы.

У поле выйдуць твае людзі
З інакшым складам і прыладай:
У грамадзе сяўба іх будзе,
Смактаць ня будзе вызыск грудзі,
Адна верх возьме думка-рада.

З жабрацкай торбай твой патомак
Ня пойдзе па сібірным шляху
Шукаць прытулку, як бяздомак:
Жудкі гісторыі абломак
Пад сказ дзён бурных згібне прахам.

Гарбы тваіх нямых курганаў,
Дзе сьпяць нявольнікі і князі,
Парэжа сталь, як нож баранаў,
Ї спражыць полымя буянаў,
Каб цьвет зацьвіў на гразкай гразі.

Дзе за пасёлкам лёг пасёлак,
Гіганты ўзьнімуць сьцяг бунтарны,
Ї ў блысках квецістых вясёлак,
Дым гасячы лучын і смолак,
Зайскрыць электрыка ўладарна.

Тваіх жалеек сьпеў гаротны
Патопча трактарнае кола,
А сейбіт твой, дасюль самотны,
Абцёршы сонцам воблік потны,
Пад крыж ня пойдзе енчыць квола.

Твае трухлявыя калёсы
Аўто бэнзынаю спапеліць,
А твой касец праставалосы
Мазольныя паломіць косы,
Гнуць плеч ня будзе ля аселіц.

Твая дзяўчына пры кудзелі
Сьляпіць ня будзе ясных вочак:
З жалеза прасьніца надзеліць
Сукном і шоўкавым кужэлем
Сваіх сялян, сваіх рабочых.

Твае сівыя забабоны
Усьмерціць радыёвы гоман,
Ї ў тон зайграюць зорнатонны,
Забыўшы крыўды і прыгоны,
Адвечны бор, адвечны Нёман.

Лясун з русалкаю пакіне
Палохаць сонныя сялібы
І вадзянік загіне ў ціне,
Спадзе з хацінай павуціньне,
Зьекача сонца ў срыбных шыбах.

Над вежамі тваіх бажніцаў
Фабрычны комін возьме ўладу,
А звон зьбянтэжаных званьніцаў
Гудку жывучая крыніца
Заглушыць гулкім гудам-ладам.

І будуць ладзіцца год кожны
На новы лад, на новы звычай
Дзяды Кастрычнікавы збожна,
А кожны год больш пераможна
Для сьвята волі бунтаўнічай.

Так сыйдзеш, вёска, з яснай явы,
Як сон маркотны, нежаданы,
Бо твой народ вернападданы
Ідзе ўжо, скінуўшы кайданы,
Да лепшай долі, лепшай славы.

Менск, лістапад 1929 г.

### А ў Вісьле плавае тапелец

Балюе панская Варшава
Бы дзень скананьня хмелем хмеліць...
А Вісла пеніцца крывавая,
А ў Вісьле плавае тапелец.
Шасьцяць мундзіры, аксаміты,
Агнямі зыркаюць палацы...
Крывёй работніцкай заліты
Завулкі, вуліцы і пляцы.

*

Балюе панская Варшава,
Ксяндзы частуюць сакрамэнтам;
Парадак дня сягоньня—справа
Пра аб'яднаньне інтэрвэнтаў.
Паны з маркізамі Парыжу,
З баярствам Бухарэсту ў хэўры,
Як СССР расьпяць на крыжу
Плянуюць пляны і манэўры.

*

Балюе панская Варшава,
А для гуманнасьці, прогрэсу,
Ідзе аблава за аблавай
На ўсходніх „вольных" „польскіх" Крэсах,
Абрабаваных да кашулі,
Там беларуса і украінца
Вядуць закованых патрулі
Па акрываўленым гасьцінцы.

*

Балюе панская Варшава...
Жандарскі конь б'е капытамі,
Пад капытамі жудкай явай—
Людзкія галавы пластамі.
Людзкім жыцьцём набіты турмы,
Бунтуе ў турмах роспач мсьціва...
А ў Бэльвэдэры выюць гурмам
„Нех жые польска дэфэнзыва".

*

Балюе панская Варшава,
Бы дзень скананьня хмелем хмеліць ..
А Вісла пеніцца крывавая,
А ў Вісьле плавае тапелец.



# Портсыгар

П. ШАМШУР

Малюнкі В. ЦІХАНОВІЧА

НОВЭЛЯ

Комэндант скамечыў папіросу.

— Доктар, ён і Вас ашуквае.

Доктар пацiснуў плячыма і асьцярожна зьняў пылiнку з пляча.

Я праверыў. Нэрвовая сыстэма выключана. Гэта—бязумоўна вар'яцтва. Пробліскі сьвядомасьці бываюць, але лячэньне доўгае і складанае.

Доктар зірнуў на гадзіньнік. Успомніў, што ўжо час ісьці на сход.

— Я больш не патрэбен?

Комэндант устаў, аправіў складкі фрэнчу.

— Дазвольце закурыць.

У срэбраным портсыгары з залатой манаграмай і надпісам: падарунак доктару ад сяброў па ссылцы, — былі добрыя папіросы.

— Даруйце, доктар, за тое, што мы вас крыху нечакана ўвезьлі на гэты візыт. Хацелася дапамогі вашай, выдатнага спэцыяліста. Ведаеце, хто ваш пацыент?

Доктар успомніў рубцы і сінякі ў пацыента, няголены твар вузлаватыя пальцы. З такімі людзьмі доктар сустракаўся, але іх ня ведаў.

Комэндант сеў бліжэй.

— Буду шчырым. Можна? Мае людзі затрымалі яго з чэмаданам друкарскага шрыфту. Даведаліся, што ён працаваў на ваенным заводзе, арганізаваў там гэту забастоўку. Матар'ялу хопіць, каб на ўсё жыцьцё пазбавіць яго магчымасьці працаваць каля варштату. Але адрас друкарні засланіў туман вар'яцтва. Доктар, хоць вы соцыяліст...

Закурваючы доктар паглядзеў поверх пэнснэ.

— Сумленьне доктара для нас вышэй партыйных абавязкаў. Комэндант чыркнуў другую запалку.

— Соцыялістаў яны таксама будуць расстрэльваць, доктар! Газэты і лістоўкі, гэта бомбы ў нашы габінэты, гэта кулі ў нашы вокны. Сёньня ўспыхваюць забастоўкі, на заўтра няма гарантый ад усеагульнай стачкі, праз дзень наша айчына можа быць у агні ўзброенага паўстаньня. Салдаты...

Папіроса патухла зноў.

— Я аднойчы гэта перажыў. Хацеў скалечыць свой твар, каб не пазналі.

Доктар зрабіў ухмылку. У комэнданта бліснуў на грудзях афіцэрскі „гэоргі" і ордэн пачэснага легіёна.

— Трэба дапрасіць, умела падыйсьці да гэтага вар'ята. Ён павінен сказаць адрас. Гаварыць-жа ён можа!

Доктар усхваляваўся.

— Трэба было раней думаць! Такіх... такога допыту, чалавек ня змог вынесьці.

У комэнданта канвульсыйна смыкнула шыя. Ён ня любіў папрокаў.

— Мы мелі справу з бальшавікам.

Комендант перасеўшы ў крэсла пазваніў.

— Я хачу вас прасіць аб другім, доктар...

Доктар устаў. Каля вешалкі, дзе віселі паліто і капялюш доктара, была цікавая колекцыя зброі. У дзьверы пастукалі. Доктар павярнуўся. У габінэт увайшоў паручнік, аддаў чэсьць, выцер хусткай руку.

— Мы амаль знаёмы, доктар! Я быў на імянінах дачкі...

Комэндант адштурхнуў крэсла.

— Што ён гаварыў?

Паручнік паморшчыўся.

— Плёў бязглуздзіцу, успамінаў вас, пане комэндант, удары мяне. Мы паўтарылі допыт некалькі разоў і ён страціў прытомнасьць. Усе словы занатаваны, але...

Комэндант абарваў.

— Прывядзіце ў прытомнасьць, дастаўце сюды. Можаце ісьці.

Затым падышоў да вакна, паглядзеў у квадрат двара, павярнуўся.

— Вы, доктар, лечыце хворых гіпнозам. Мы наважылі скарыстаць вашыя веды. У яго бываюць пробліскі сьвядомасьці. Даведайцеся аб адрасе друкарні. Адгаворкі лішнія. Азнаёмцеся з матар'яламі.

Доктар зьняў пэнснэ, хацеў нешта сказаць, але комэндант працягнуў яму сінюю папку. Стрэліся вачыма. Кожны заняўся сваёй справай. Доктар лістаў паперкі, веерам адкладваючы думкі.

— Як паддаецца вар'ят гіпнозу?.. дрэнна, калі даведаюцца... Тут памрэ—ці скажа... Ён быў польскім соцыялістам? Дайці да здрады... Можа — сустракаліся!? Улетку зьняць дачу за Львовам — ня ведаюць і Аўстрыя блізка... Я быў у ссылцы за вызваленьне Польшчы... на сход спазьнюся... ён сядзеў у царскай турме... сарваць забастоўку на ваенным заводзе... мянушка—„Владэк"... небясьпечна... можа — адмовіцца? хаця-б яго абмылі... узяць адразу — злоты падае... Польшча—наша мэта! Маладзец комэндант! Без такіх людзей...

Комэндант праглядаў вячэрнія зводкі.

— У уланскім палку? Пасадзіць, эскадрон расфарміраваць... Так. Каля фінішу—армія... Змагацца яшчэ можна... Гэтыя сьлюнцяі могуць здрадзіць... Вена ня дрэнны горад... Што-ж лёс такі! За што паміраць? Ці ня ўсё роўна?! Вы афіцэр! Хопіць!

Паручнік пад руку ўвёў вар'ята. Запалілі люстра. Вар'ят сядзеў апусьціўшы галаву, часам уздрыгваючы. Доктар пачаў работу.

— Владэк! Ціха! Супакойся. Мы адпачнем. Нельга так многа працаваць. Ты змарыўся. Выцягні ногі, сядзь зручней. Супакойся. Глядзі сюды. На портсыгар. Уважліва глядзі. Я лічу, Владэк! Глядзі. Раз... Два... Тры... ты спаць хочаш, Владэк... Чатыры... Пяць... Ты змарыўся... Шэсьць... Сем... Табе баляць косьці... Ты хочаш выцягнуць ногі... Восем... Дзевяць... Дзесяць... Як добра сядзець у мяккім крэсьле... Адзінаццаць... Дванаццаць... Галава такая цяжкая... Трынаццаць... Засьні... Чатырнаццаць... Сьпі Владэк!.. Пятнаццаць... Сьпі! Спаць! Спаць!

Паручнік ад напружаньня раскрыў рот, комэндант прыпадняўся. Доктар працягваў.

Які гарачы—дзень! У цябе на ілбу пот, Владэк. Ты ідзеш па Султанішках. Падыйшоў да ракі. Гудуць камары. Гані іх, Владэк. Няма камароў... Сонца нізка. Халаднавата... Ты сеў на траву... Як добра адпачыць... Ты засьпяваў любімую песьню.



— Сьпі, Владэк! Спаць! Спаць!

Доктар здаволена паглядзеў у бок вакна. Владэк ціха сьпяваў... „Сьмела да бою...

Чырвоны штандар
Да гуры ўзьнесь!"

— Владэк! Хопіць. Ты ўбачыў на мосьце таварыша. Ён працуе ў партыйнай друкарні. Ты зьдзіўлены Чаго ён пайшоў з работы? Магчыма—правал? Ты хутка ідзеш да друкарні. Робіш круг, павароты... „Хваста" за табой няма. Ужо вечар... Цёмна. На вуліцах многа гуляючых... Гараць агні, рэклямы. Ты каля мэты. Тут. Усё здаецца спакойна. Друкарня ў гэтым доме. Аглядаешся. Спыніўся ля брамы. Разыгрываеш п'янага гуляку. Закурваеш. Хістаючыся, чытаеш надпісы на таблічцы, пад ліхтаром. Вуліцу, нумар дому...

Ты чытаеш. Владэк! Чытай!

Ад напружаньня ў доктара ўспацела лысіна. Комэндант нэрвова скамечыў порт'еру вакна. З заду на двары візгнула сырэна аўтомабіля.

— Я чытаю... Гэоргіеўская... 25...

Комэндант маўзэрам разьбіў вакно і крыкнуў на двор:

— Тры машыны! Пятнаццаць чалавек! Праз сэкунду!

Паручнік, вымаючы наган, сказаў:

— Скажэце, там-жа ваша кватэра, доктар!

Комэндант ужо выскачыў у акно. Для яго гэтая работа была добрай доляй какаіну. Паручнік стаяў каля стала і глядзеў, як корчыцца ад сударгі твар доктара. Хутка думаць паручнік ня ўмеў. Комэндант, сядаючы ў аўтомабіль, загадаў:

— Паручнік! На другую машыну! Хутка! Захапіце гэтага! Наган падручніка зьвярнуў доктару здольнасьць рухацца.



Шумеў горад, чакалі: воля і работа.

На парозе доктар хацеў спыніцца і нешта сказаць, але паручнік вырас на такой рабоце. Дула нагана ўпёрлася ў сьпіну доктара, сьцены калідору хіснуліся. Правініўшымся і пакрыўджаным школьнікам доктар пайшоў па калідору, узрыгваючы на паваротах. Дзьверы габінету захлопнуліся.

Чалавек у крэсьле, ня меняючы палажэньня, раскрыў вочы, паглядзеў на вакно. Можна ўстаць. З двора ня ўбачаць. Паліто і капялюш доктара засталіся ў габінэце. Портсыгар перакідваў хісткую дошку праз бяздоньне дэфэнзывы.

Першы аўтомабіль плаўна пайшоў. Візгнула сырэна. Ужо на хаду комэндант крыкнуў:

— Капрал! На трэцяй...



— Загадана перадаць вам портсыгар.

Рэшту слоў раскідаў вецер.

Той, каго называлі Владэкам, хутка адзеў паліто і капялюш, палажыў у кішэню портсыгар. Тыдзень валявога напружаньня канчаўся. На дзесяць хвілін трэба было стаць пухлым і нізкім, зьмяніць голас, паходку.

Калі пайшла другая машына, Владэк выскачыў праз вакно, падыйшоў да капрала, шчоўкнуў портсыгарам:

— Зараз паедзем? Трэба сьпяшацца!

Сэкунда, пакуль гарэла запалка, а затым два крокі да машыны, былі рашаючымі. Шофэр даў газ і надзеў пальчаткі. За варотамі шумеў горад, чакалі: воля і работа.

... Комэндант выскачыў з машыны першым. Квартал абкружалі. Падыйшоў другі аўтомабіль, вывелі доктара. Комэндант падняў курок маўзэра. Дворнік пацісяуў плячыма.

— Тут жыве пан доктар—дэпутат...

Доктар усхліпнуў.

— Гэта ўсё портсыгар...

Трэцяя машына ўвайшла ва двор.

Нізенькі капрал чотка ўстаў перад камэндантам:

— Загадана перадаць вам портсыгар. Агент, які паведаміў адрас, выехаў з намі, але зьлез на рагу. Яму ня зручна тут паказвацца.

Паручніку здалося, што ён стаіць у гразі. Комэндант узяў портсыгар скрыгануў зубамі. На портсыгары залатымі завітушкамі было напісана: „На ўспамін аб цяжкіх гадох Калымскай ссылкі—за Польшчу". А на рагу чотка было выведзена: „Доктару Пальчэўскаму, Гэоргіеўская, 25".

Комэндант асіплым голасам прашаптаў:

— Сволач!

Портсыгар зазьвінеў аб каменьні двара.

Капрал разганяў зявак.

— Панове! Пшэпрашам! Ну вас да д'ябла!

МІКОЛА БАЦЮШКОЎ

# ЛІСТ ЗАМЕЖНАМУ СЯБРУ — РАБОЧАМУ

Ах, сябра! Ты—за водамі
Твой рот у пене мокрай.
Слухай, як заводамі
дыміць, грыміць мой край.
У гудзе тым—жыцьцё маё
І тваё надзеі...
Дні пярсьцёнкі цёмныя
На твой зірк надзелі.
Эх, сябра (шчэ круціць лірыкі
шарманку каханьня).
Уздымайся левам рыкаць
Гняўлівае дыханьне:
Імпэрыяліст знарадныя бублікі
пячэ рабу
сочыць,
ад голаду хістаецца нага як
каб, выбраўшы момант,
гвазданўць па чэрапу
Кроў залізваючы
языкамі нага к.
У капіталіста ня пустуюць
карцэраў бочкі
(небясьпечна прысутнасьць
непакорнай башкі).

Ты-ж ведаеш:
умалот галоў рабочых
Поўніць сэйфавых жыватоў мяшкі.
І ніколі, ніколі замок на вочы
Не завесіць,
Не асьляпіць воч віннай расой.
Добра відаць:
капіталіст цэдзіць, прысмокваючы,
Прапахлым потам крыві расол.
Заляйцаў жыцьцё тваё
гаспадарык беленькі.
Слухай!
Ці-ж ня досыць з-за граша
На злузаных плячох
узносіць банкаў бэлькі
Топкі жыватоў гнілых
касьцямі загружаць.
Сьціснуты ў адчаі
беспрацоўных локці.
Фабрыкант расчулен:
два грашы... і
Радзіць купіць шнур. Прывалакці
Кошчы-мошчы да хаты...
і шнур на шыю.

Ды і ты ня ў сіле
разьняць губ сам
Ад стаянкі анямелі
мэханізмы сківіц.
Слухай!
Ці-ж ты будзеш
братом-самагубцам
За гнілы агрызак аборкі віц?
Каб усё жыцьцё глытаць вачамі высь?
Абарванцам прастаяць?
Ты гаркні:
Не!
і да ротфронтаўцаў рашуча станавіся
Твой крык жыцьця—гарматны сьвіст,
што здрыгане
штыкастых гадаў каркі.
І калі на сьмерць
дзьве клясы б'юцца,
Толькі выпрабаваны камандзір
прывядзе да перамог.
Компартыя —
сэрца рэволюцыі.
Компартыя—
пролетарыяту мозг.



СПЛАЎ ЭКСПАРТНАГА ДУБУ ПА РАЦЭ СОЖ — ФОТО СЕМЕНЯКІ

ЭСКІЗ

ЦІШКА ГАРТНЫ

# „ТОЛЬКІ НЕ ЧАПАЙЦЕ МАІХ МІНУЛЫХ ГРАХОЎ"

Уладзімер Лабуць—майстар такарнага цэху. Ён на заводах з 15 год. Толькі прышоў юнацкі ўзрост, як яго бацька паслаў вучыцца за рамесьніка. Бацька сам астаўся па чыгунцы кандуктарам, таксама з маладых гадоў. Некалі разгульвацца ў іх становішчы.

Лабуць успамінае шэраг невялікіх менскіх прадпрыемстваў, дзе ён працаваў токарам. Гэта былі не заводы, а буйныя майстэрні. А хто ня ведае, якой эксплёатацыі падлягалі ў іх чалядніkі. Уладзімер паспытаў дарэволюцыйных умоў працы і загартоўваўся ў іх для рэволюцыйнага змаганьня. Пуцілаўскі завод асабліва моцна ўплыў на яго рэволюцыйнае пачуцьцё.

Уладзімера Лабуця накіравалі ў Пецярбург з фронту імпэрыялістычнай вайны. Недахоп у знарадах ды ў зброі вымусіў царскі ўрад вярнуць на заводы кваліфікаваных рабочых, згарача пазабіраных у армію. Сярод іх быў і Лабуць, які трапіў у майстэрню па вырабу зэнітных гармат.

— Я ня толькі стаяў пры гэтай менавіта рабоце, не; мая кваліфікацыя абымала шырокае поле дзейнасьці ў заводзе. За два гады працы я пабываў у многіх цэхах Пуцілаўца,— расказвае Уладзімер: — А ў семнаццатым годзе вярнуўся ў Менск.

У Менску не ўдалося астацца за такарным станком: тыя гарматы, што памагаў іх выточваць Лабуць на Пуцілаўцы, апынуліся ў руках іх вытворцаў. Іх жэрлы накіраваліся рабочай клясай супроць скінутай контррэволюцыйнай буржуазіі. Пераможны Кастрычнік заклікаў пролетарскіх байцоў на абарону рэволюцыйных заваёў, і Лабуць разам з тысячамі токараў, сьлесароў, ліцейшчыкаў апынуўся на фронце грамадзянскай вайны. Ён астаўся на бронепоезьдзе „Чорнаморац" перш памочнікам паравознага майстра, а далей машыністам.

Гэта былі адказныя пасады, але іх добра выконваў Уладзімер. Паравоз ён вывучыў, працуючы ў чыгунковых майстэрнях і выявіў з сябе вопытнага важатага броніраванай машыны. Лабуць пасьпеў звыкнуцца з „Чорнаморцам" за цэлых тры гады, наведваючы ўсе вучасткі расьцягнутага фронту.

— Я не хачу хваліцца, як і што мне даводзілась вадзіць „Чырвонага багатыра"—пра гэта няхай скажуць тыя, хто на ім езьдзіў. Даволі аднаго, што я не атрымаў жаднае заўвагі за тыя ці іншыя хібы ў кіраўніцтве „Чырвонаморцам". І вось перад вамі... А мой брат—аддаў жыцьцё за рэволюцыю пад Перакопам. Шкада хлапца, які быў удалы чалавек.

Ня толькі братні подвіг, а сузнаньне задач рабочае клясы, жаданьне стаць у шэрагах передавых ваяк за комунізм— адчынілі яму дарогу ў партыю. Лабуць стаў партыйцам у 1924 годзе, а праз год перайшоў на работу ў „Комунар". З таго часу Уладзімер комунаравец.

У „Комунары" ўсё тады выглядала бедна і ашчэдна: завод станавіўся на ногі. Неабсталяваныя майстэрні цяжылі вырабчасьць. Саматужныя опэрацыі ціснулі на мэханічныя. Ішлі гутаркі абператварэньні заводу ў больш дасканалае прадпрыемства. Ды ня толькі адны гутаркі—„Комунар" на справе ператвараўся з майстэрань у завод. Той адзіны станок, пра які ўспамінаюць многія з старых комунараўцаў, больш як каму вядомы Лабуцю. Гэта быў токарны станок, на якім працаваў Уладзімер, думаючы пра другія, пра новыя, якія ўжо паступалі ў цэх. Кожны госьць знаёміўся з Лабуцем—Уладзімер пасабляў іх устанаўліваць; ён таксама многіх выпрабоўваў. І з якою ўцехаю констатаваў ён новую вытворчую адзінку ў заводзе!

Уладзімера Лабуця паставілі майстрам токарнага цэху тады, як цэх запоўніўся такарнымі станкамі, калі завод ужо мог пахваліцца добра абсталяванай токарняй; калі дзесяткі станкоў ужо ўпусьцілі свае зубілы ў першыя кускі сталі для пяцігадовага пляну. Ён быў трэцім майстрам, пэўней— майстрам трэцяе зьмены.

Яго назначэньне ні адзін з рабочых ня прызнаў нясуладным. Наадварот, было-б недарэчнасьцю не зрабіць гэтага? Уладзімер Лабуць цалкам адказваў гэтай пасадзе. А прынамсі сваёй токарскай кваліфікацыяй—дык асабліва. Але ня ўсім ён прышоўся (і прыходзіцца) да густу, у цэху трапляюцца рабочыя, якім Лабуць за жорсткі. Уладзімер любіць адданую працу, акуратнае наведваньне заводу, дасьціпнае выкананьне заданьняў—іначай кажучы—ён за ўзорную, добраякасную работу, а некаторым гэта не па нутру. Чаму не абмануць адміністрацыю цэху сваёй нядбайнасьцю, скрасьці адзінку часу, падаць недаробленую рэч? Навошта так строга выконваць загады дырэктара, вытворчай нарады, агульнага сходу? „Лабуць няйначай перастарваецца". Знаходзіліся нават гэткія, што слова „перастарваецца" падмянялі больш яхідлівым, па сутнасьці сваёй рвацкімі зрыўным словам „падлізваецца".

— Былі ўвесь час падобныя таварышы, ёсьць яны і зараз,—скардзіцца Лабуць і заключае:—гэткім я ня хачу і ня буду ўгаджаць. Я, па-першае, партыец і сьвядомы пролетар-рабочы, а па-другое, паслушны выканаўца заданьняў. У мяне на зьмене звыш сарака чалавек, і падлажванца адзінкавым

гультаём ці сымулянтам я ніколі не дапушчу сабе. Ніколі, дзядзечка... А канфліктаў, засьведчу і запэўню, за два гады ня меў ніводнага... У огулец, скажу, што многія з таварышоў мяне шануюць...

У сваёй працы токарня зьвязана з кузьняю: яна пастаўляе для ціскоў балты і мухты. Часамі здараецца тая ці іншая няўпраўка і кузьня запозьнена атрымоўвае з такарні цісковыя часткі. Тады ідуць закіды майстрам токарнага цэху: Лабуць, вінаваты ці не, ці здае сваю трэць акуратна. У той час, як ён упарта змагаецца супроць перабояў і зрываў. Ён усяго сябе аддае напружанай сочцы за нормальным выкананьнем пляну, за колькасныя і за якасныя паказчыкі. За апошні час Лабуць дамогся значнага зьніжэньня браку. Але з прарывамі ня скончыў: на гэта, пакуль, не хапае ў яго ні сілы, ні разгону, ні магчымасьці. Яго ўдарная праца дала яму дзьве прэміі, усё-ж саўладала яго зьмепа з прарывам. І ў апошні час, у сакавіку, калі па ўсім заводу вызначыўся значны перабой—падлёг яму і токарны цэх. Відома, ён залежны ад іншых цэхаў. Ды ўжо незалежна Лабуцева зьмена ў абвешчаны штурм нагнала выкананьне пляну, ажно каля двухсот процантаў. Гэта вельмі памагло ўсяму цэху, які вышаў з штурмавога месяцу з 103 проц.!

Уладзімер Лабуць выявіў сябе выдатным штурмавіком-ударнікам. Ня сужа яму і рацыяналізатарская струнка. Ён унёс сваю прапанову, якая распрацоўваецца і ўжо на дарозе да прыстасаваньня.

— Го, Уладзік слаўны хлапец, слаўны!—захапляецца ім рэдактар шматтиражкі і сьледам упіраецца на „але", якое ў вымове ападае на тон ніжэй:—Але ён мае адну віну,—з-за якой цяжкавата паставіць Лабуця побач з іншымі гэроямі працы...

— Сваю віну ён ужо выкупіў,— падае думку трэзвы Хаймоўскі:—толькі-б надалей з ім нічога ня здарылася...

— Вось я й баюся гэтага,—выказвае няўпэўненасьць Шыфрына:—А адныі гэта—які з Уладзімера ўзорны рабочы! Не—яго трэба падтрымаць, трэба падбадзёрыць, знайсьці іншы падыход, чымсь былі абралі раней. То была памылка...

Гэта рэч пра адзін выпадак, які жорстка ўдарыў па Уладзімеру Лабуцю. З-за п'янкі ён быў паплаціўся і мейсцам майстра і годнасьцю партыйца.

Для Уладзімера балюча ўспамінаць яго:

— Толькі і не чапайце маіх мінулых грахоў,— папярэдзіў ён тых, хто ня мог не ацаніць яго ўзорнасьці штурмавіка і ўдарніка.

Лабуцевы рукі бяруцца за голаў і відаць, што яго ня толькі мучыць, а і сарамаціць гэта мінулае.

Не, болей, яно не перакажацца, не павінна паўтарыцца! Ня траціце ўпэўненасьці, дарагія таварышы! Годзе, каб яго імя пеляскалася на губах цырказых клёўнаў, што ня вельмі спрыяльна для таварышавай паправы. Трэба іншыя рады ў падобных выпадках.

— Было, што-ж зрабіць,—прызнаецца Уладзімер, майстар такарнага цэху і, самаўцяшаецца:— Але па-за партыяй я прабыў ня больш двух тыдняў, а пры станку—каля трох месяцаў, пасьля...

Пасьля ён даказаў, што можа вярнуцца ў бальшавіцкія шэрагі і на пасаду майстра токарнага цэху. Крызіс зьгладзіўся ў процэсе Лабуцевай працы; клёўнская сатыра схавалася пад двухразовай прэміяй.

Значыць Уладзімер Лабуць не заслугоўвае нявэрра і годзен званьня ўдарніка-майстра.

Нё ўспамінайце-ж яго мінулых грахоў, якіх ён больш не папусьціць да сябе, а падзяліцеся з ім гордасьць старым шасьцідзесяцісямігадовым бацькам, праваднікам вагону, які на майскія ўрачыстасьці 1932 г. вайшоў у шэрагі партыі. Гэта той стары рабочы-чыгуначнік, які ні разу не астаўся без бальшавікоў, калі яго краіну руйнавалі інтэрвэнты, і які пасьля стаў комуністым.

Гэта бацька Уладзімера Лабуця, майстра токарнага цэху заводу „Комунар", які не апусьціў долу і не запляміць сваёй ударніцкай годнасьці!

ФОТО С. ГРЫНА.



МАЛОЧНЫЯ НАСОСЫ ВЫТВОРЧАСЬЦІ ЗАВОДУ „КОМУНАР" (МЕНСК), ЯК Я РАНЕЙ УВОЗІЛІСЯ З-ЗА МЯЖЫ.



ЧЫГУНАЧНІКІ СТАНЦЫІ ФІЛОНАВА РЭМАНТУЮЦЬ ДЬЗЭЛІ Ў ПАДШЭФНЫМ КОЛГАСЕ АМО (Н. ВОЛГА).

# ДА ПРЫЕЗДУ Ў БССР ЦЫГАНСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ТЭАТРУ

**Л. РАХЛЕНКА**

I

Вялікія і яскравым мастацка-палітычным зьявішчам у нас у БССР, зьяўляецца прыезд да нас, на гастролі, дзяржаўнага цыганскага тэатру „Ромэн“. Дзесяткі чалавек у неразуменьні супыняюцца перад афішамі. Сотні чалавек дапытваюцца адзін другога: „Што такое?“, „Адкуль?“ „Нейкі дзіўны тэатр“. „На якой мове ён грае?“

Некаторыя мяркуюць, іншыя ўпэўнены, што гэта расійскі тэатр, з расійскімі акторамі, на расійскай мове паказвае п‘есы з жыцьця цыган, іх побыту, паказвае іх звычкі, нравы, сьпевы, танцы і г. д. Неразуменьні і розныя меркаваньні тых, якія чытаюць афішы, зусім зразумелы, таму што цыганскі тэатр зусім нядаўна арганізаваўся, аб жыцьці яго вельмі мала каму вядома, як, паміж іншым, мала вядома наогул жыцьцё цыган за апошнія гады.

*Так, цыганскі тэатр у нас ёсьць, ёсьць у Краіне Саветаў, у краіне будуючагася сацыялізму і нідзе больш у сьвеце яго няма.*

*Цыганскі тэатр з акторамі-цыганамі, на цыганскай мове з арыгінальнымі цыганскімі п‘есамі. Таксама, як ёсьць у нас сотні цыган ударнікаў на прадпрыемствах, як ёсьць цыганскія колгасы, як ёсьць прыгожы цыганскі клюб у Маскве, як ёсьць у нас—першы ў сьвеце—часопіс на цыганскай мове.*

І гэта магчыма толькі ў нас, у краіне саветаў, дзе з кожным днём расьце культура ўсіх нацыянальнасьцяй, якія насяляюць наш вялізарны Савецкі Саюз.

З пачуцьцём вялікай радасьці мы канстатуем, што з вясны мінулага году ў магутную сям‘ю нацыянальных тэатраў Савецкага саюзу раўнапраўна ўступіў яшчэ адзін член сям‘і—цыганскі тэатр. Гэта яшчэ адзін яскравейшы факт культурнай рэволюцыі, якая праводзіцца комуністычнай партыяй і савецкай уладай на глебе ленінскай нацыянальнай політыкі.

II

Адным з шматлікіх сродкаў да існаваньня ў цыган у царскай Расіі было выкананьне сьпеваў і танцаў на рынках, дварох, у піўных і карчмох. Іх своеасаблівыя мэлёдыі (сьпевы), своеасаблівая яскравасьць і тэмпэрамэнтнасьць танца, экзотычная пярэстасьць іх вопратак, нейкая дзікая прыгожасьць, сочнасьць і орыгінальная тэмбральная гучнасьць іх галасоў, бурнае, бязутрымна-вясёлае выкананьне,—усё гэта прыцягвала да сябе вялізарнейшую ўвагу рыначных натоўпаў, наведвальнікаў нізка-пробных карчом і фэшэнэбельных рэстаранаў. Цыганскія табары наведваліся прадстаўнікамі „залатой моладзі“ і сытымі, шукаўшымі новых, моцных, прыемных „адчуваньняў“ рускімі купцамі ўсіх гільдый.

Ім гэтым уладаром грашовых торбаў ня было справы да таго, што і тэмпэрамэнтнасьць выкананьня і падкрэсьленая бурнасьць танцу, і эротычнае пакачваньне грудзей, і ня стрымнае вясельле—усё гэта рабілася для таго, каб выманіць у гэтых



„Жыцьцё на калёсах“ з другога акту.

„гледачоў“ крыху грошай, каб купіць каня, фурманку, хлеба. Потым зьявілася цэлая ганьня антрэпрэнэраў-дзяльцоў, якія езьдзілі па табарах і на іралі для рэстаранаў, на пацеху купцам, прыгожых сьпявачак, сьпевакоў, танцаўшчыц і г. д. Складаліся цэлыя хоры і трупы для ўвесяленьня рэстаранных наведвальнікаў вялікіх гарадоў—Масквы, Пецярбурга. На Ніжагародзкія кірмашы пастаўляліся сотні цыганскіх хораў і танцавальных груп. Гэтыя антрэпрэнэры-дзяльцы зараблялі на сваім жывым тавары досыць вялікія грошы.

У карчмох і рэстаранах апашлялася, прыймала ўродліва-жахлівыя формы цыганская народная творчасьць. Цыганка-сьпявачка, альбо танцоўшчыца была і жанчынай, якую мог купіць любы купец, які прыехаў пагандляваць на Ніжагародзкі кірмаш, альбо павесяліцца ў рэстаране Санкт-Пецярбургу. Самадуры-купцы на масьленіцу стваралі катаньне на санках, з абавязковым удзелам цыган і цыганак. У дзікім разгуле п‘янства і распусты імчаліся яны па вуліцах. У гэтых душных рэстаранах і карчмох, у гэтых дзікіх оргіях гінула шмат надзвычайна каштоўных талентаў цыган, забівалася грашыма і алкаголем чалавечая сьвядомасьць.

А ў палёх і лясох у табарах галадалі сотні і тысячы цыган, жабравалі, займаліся крадзежам, варажылі і ганяліся царскай паліцыяй з месца на месца.

*Так пры капіталістычным ладзе вырашалася цыганскае пытаньне ў расійскай імпэрыі.*

Пасьля зьявілася шмат расійскіх сьпевакоў і сьпявачак, кампазытараў і паэтаў-рыфмачоў, якія фабрыкавалі так званыя, цыганскія романсы. Гэтыя сьпевакі „працавалі пад цыган“, зьявілася цэлая плеяда „зорак“ і „выдатнасьцяй“. Гэтыя цыганскія романсы, зразумела, ня мелі нічога агульнага з сапраўднай, здаровай цыганскай, народнай творчасьцю. Гэта была вульгарная, агідная *цыганшчына.* Адрыжкі гэтай цыганшчыны ў досыць вялікай меры мы мелі ў нас у першыя гады НЭП‘у.



„Жыцьцё на калёсах“ II акт.

Гэтыя адрыжкі былі прыемны нэпману і абывателю, асабліва калі яны вырывгаліся з рота „выдатнасьці“ накшталт Тамары Цэрэтэлі.

У задачы савецкага цыганскага тэатру ўваходзіць па-новаму, у сьвеце ленінскай нацыянальнай палітыкі раскрываць і адлюстроўваць гісторыю цыган, іх побыт з яго асаблівасьцямі, іх мастацтва, весьці бязьлітасную барацьбу з цыганшчынай, паказваць пераход цыган ад вандроўнага, табарнага жыцьця на калёсах да ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве.

III

Цыганскі тэатр-студыя быў створан у Маскве вясною 1931 г., як дзяржаўны тэатр пры Наркамасьветы РСФСР.

Колькасьць работнікаў у тэатры каля 50 чалавек. Сярод іх шмат моладзі і шмат ужо пажылых цыган, якія адчулі на сабе ўсе жахі галоднага і халоднага жабрацкага жыцьця пры царызьме, якія адчулі ўсе цяжкасьці „здабытку“ на растаранных эстрадах і ўсю зьнявагу абавязкаў кірмашных шутоў і варажэй.

У тэатры апрача непасрэднай вытворчай працы, вядзецца вялікая навучальная праца па культурнаму і палітычнаму выхаваньню працаўнікоў. Пры тэатры ёсьць саўпартшкола, у якой на цыганскай мове вядуцца заняткі па палітэканоміі, асновах ленінізму, гісторыі партыі і нацыянальным пытаньні. Вядзецца работа па выхаваньні культурнага савецкага актора.

Першай студыйнай працай тэатру быў спэктакль „Учора і сёньня“. П‘еса носіць характар асобных кавалкаў, карцін, фрагмэнтаў з мінулага і сучаснага жыцьця цыган. П‘еса была напісана групай працаўнікоў тэатру на матар‘яле з бачанага і перажытага самімі аўтарамі. У спэктаклі праходзяць малюнкі табарнага жыцьця, кірмашы, звычаі і г. д. У спэктаклі шмат музыкі, сьпеваў, танцаў.

Гэта п‘еса зьяўляецца першым творам цыганскай драматургіі і зразумела яна павярхоўна і схэматычна. Другой працай тэатру была п‘еса цыганскага пісьменьніка тав. Германо „Жыцьцё на калёсах“, якая мела ў Маскве вялізарны посьпех. Гэта п‘еса мела ўжо вызначаную, пэўную, ідэйную накіраванасьць, соцыяльную і палітычную насычанасьць і цікавую сюжэтную пабудову. Тэма п‘есы—клясавая дыфэрэнцыяцыя табару і заклік да новых форм жыцьця.

У п‘есе досыць яскрава паказан быт табару, клясавая дыфэрэнцыяцыя, табарнае кулацтва і табарная бедната. Гэты спэктакль цікава мастацкі аформлен вядомым мастаком Тышлерам. Музыка на матар‘яле народных цыганскіх мотываў напісана кампазытарам Багучэўскім—танцы пастаўлены рэжысэрам-хорэографам Вульф. Пастаноўку рабіў артыст яўрэйскага маскоўскага тэатру Гольдблат. Цікавай асаблівасьцю спэктакляў цыганскага тэатру зьяўляецца ўвядзеньне інтэрмэдый на расійскай мове. Яны ўведзены рэжысурай і аўтарам спэцыяльна для растлумачэньня на расійскай мове сэнсу і зьместу наступных карцін і актаў п‘есы.

Трэцяй працай тэатру зьяўляецца п‘еса „Паміж агнёў“. Табар у пэрыяд грамадзянскай вайны папаў у паласу боек і апынуўся паміж белымі і чырвонымі. Цыганы падабралі некалькі параненых чырвоных байцоў і схавалі іх у табары. Параненыя папраўляюцца. Наскочылі белыя. Афіцэры патрабуюць цыганскіх танцаў, сьпеваў і цыганскага каханьня, патрабуюць цыганскага вясельля, як калісьці ў рэстаранах Пецярбургу. Цыгане рашуча адмаўляюцца пець і танцаваць, ня гледзячы на пагрозы афіцэраў і ўгаворы табарных кулакоў. Адзін паранены чырвонаармеец шапнуў у шатры цыганцы, каб яны згадзіліся сьпяваць і танцаваць: „Пад шум вашых сьпеваў і музыкі, у самы разгар вясельля, мы ўцячом“.

Пачаліся сьпевы, танцы. Заіграў і затанцаваў табар... І пад прыкрыцьцем гэтай вакханаліі чырвонаармейцы ўцяклі. Афіцэры робяць агіднасьці, разбураюць табар. Шмат цыган уваходзіць дабраахвотнікамі ў Чырвоную армію.

За паўтары гады свайго існаваньня, цыганскі дзяржаўны тэатр зрабіў вось гэтыя тры пастаноўкі.

Роля цыганскага тэатру ў справе выхаваньня і перавыхаваньня цыганскіх мас вялізарная. Тэатр яшчэ вельмі малады, але магчымасьці яго вялізарныя, пэрспэктывы ясны.

Стварэньне першага ў сьвеце цыганскага савецкага тэатру, яго рост і посьпехі яскрава паказваюць працоўным масам Савецкага саюзу і пролетарыяту ўсяго сьвету, што толькі ў краіне будуючагася сацыялізму можа быць поўны і буйны рост усіх відаў і формаў культуры тых народаў, якія стагодзьдзямі прыгнячаліся царызмам.

**КАДРЫ З КІНО-ФІЛЬМУ ВЫТВОРЧАСЬЦІ БЕЛДЗЯРЖКІНО „ЖАНЧЫНА“**

РЭЖЫСЭР—ДЗІГАН
АПЭРАТАР—НАУМАЎ



Кацярына—
артыстка Мазалеўская



Машка—
артыстка Есіпава



Аграном—
артыст Малчанаў

Дырэктар МТС—
артыст Стукачэнка



Машка—
артыстка Есіпава



На мяжы савецкага Таджыкістана і Афганістана расьце грандыёзны агра-індустрыяльны комбінат „Вахшбуд“. Ён дасьць савецкай краіне 11000 га пад пасеў высокагатунковай эгіпецкай бавоўны. На будаўніцтва асыгнавана каля 150 млн. руб.

На здымку: распрацоўка асноўнага магістральнага каналу на Вахшбудзе.



Монтаж скрубэраў 2-й чаргі на кокса-комбінаце Кузьнецкбуду.



Інгушэтыя. Будаўніцтва водагаспадарчай сыстэмы Алхончурт скончыцца ў 1933 г. На здымку: Акведук праз раку Комберзэўку.



Гатовая продукцыя завода „Карболіт“ вырабы для радыё-прамысловасьці (Арэхава-Зуева).



Падача чыгуну на конвэерную ленту першай савецкай разьлівачнай машынай на Рыкаўскім заводзе (Донбас).



На будаўніцтве марыупальскага волата. Цэх жалезных канструкцый, абсталяваны толькі на 50%, выпускае ўжо 1000 тон жалезных конструкцый штомесячна.
На здымку: пракатка мэталічнага калена газаправоду.



На будаўніцтве марыупальскага волата. На здымку: агульны выгляд газаачысткі і двух будуючыхся домн.



Ліквідацыя няпісьменнасьці ў калгасе



Ва ўсёй навучальнай рабоце школы неабходна дамагчыся максымальнага забесьпячэньня вядучай ролі настаўніка.

ПЯТРУСЬ БРОЎКА

# ЯНКУ КУПАЛУ

ДА 50-ГОДЗЬДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭНЬНЯ

Курлоўскія ночы  
над краем гасьцілі  
І сьмерць вандравала  
хадою бясконцай...  
А недзе жалейка  
жывой галасіла  
і клікала сонца!  
І людзі ішлі  
на змаганьне нястомна,  
дзе сэрца музыкі  
танула у гуках,  
і плакаў паэта,  
і клікаў бунтоўна  
да сонца ўзьнімаючы  
моцныя рукі.

Ён ведаў, што цемрадзь—  
адыйдзе і згіне,  
Што звон кайданоў  
разаб'ецца аб скалы...  
І выняў ён сэрца  
для роднай краіны,  
Гэта з вашай дарогі —  
Янка Купала.

Калі-ж узьнімаліся хмары  
навалай,  
і полем шугалі  
суровыя сьцені,  
То сокалам песьня  
ваша ўзьлятала,  
то скрыдлы ламала  
на гострых каменьнях.

Было:  
спатыкала  
гадзіна такая —  
ня ведала слова,  
дзе песьняй спыніцца...  
І вы адзінотай  
ў дарозе блукалі  
і біліся сьцежкай  
ізноў да гасьцінцу...

Бо ў цяжкай хадзе,  
калі коліць жарства,  
Было:  
усплывала і слоў перегаса,  
трапіўшы дзе  
у імшары і твань,

Вы рвалі  
хваробныя звычаі часу  
Але падыходзіла  
мужнасьць і гарт,  
І чулі мы голас  
бадзёры і юны —  
Вы клікалі нас  
маладых арлянят  
па песьню,  
па сонца,  
па шчасьце камуны.

І ў гэтыя дні,  
калі вырасьлі мы,  
І сталі на варце  
камуны —  
Заўсёды ўважна  
лістаем тамы  
вашага сэрца  
і думак.

Мы вашыя песьні  
шчыра віталі,  
што клікалі буйна  
да перамогі,  
бо майстрамі  
партыя нас узгадавала  
на ўпартую працу  
вялікай эпохі.

А трэба —  
мы выйдзем  
і ў маршах удалых,  
як порах запалім  
гарачыя сэрцы.  
Мы выстраім песьні,  
Янка Купала,  
шарэнгамі слаўных,  
крылатых армейцаў.

Мінулі вы песень  
пануры залом,  
І там, дзе шырока  
ўзьнімаюцца гоні—  
з вялікай сяўнёю  
гарачых слоў  
Вы пашыя вёсны  
страчаеце сёньня.

Калі-ж забушуе  
вайны пажар  
і вораг сьцяною  
абкружыць Саветы —  
Вы будзеце з першых  
у бойках, пясьняр,  
ў кагортах байцоў,  
мастакоў  
і паэтаў.

Ліпень, 1932 г.

КРАСЬНЕЎСКІ

# 50-ці гадовы шлях Янкі Купалы

Беларускаму народнаму поэту **Янку Купале** споўнілася 50 год. Якія-ж тыя асноўныя **прынцыповыя** пытаньні, што ўзьнікаюць у сувязі з 50-цігодзьдзем Янкі Купалы?

Першае такое пытаньне—аб **адносінах пролетарскай грамадзкасьці і савецкай літаратуры** да творчасьці Я. Купалы і наогул да нацыяльна-літаратурнай спадчыны. У сэнсе прынцыпова-тэарэтычным, рэволюцыйны марксызм ужо даўно мае адказ на гэтае пытаньне.

Мы кіруемся ўказаньнем Леніна на тое, што „ў кожнай нацыі ёсьць дзьве нацыі", што „ў кожнай буржуазнай культурыя, ёсьць дзьве культуры". „Мы,—казаў Ленін—з **кожнай** нацыянальняй культуры бярэм **толькі** яе дэмакратычные і яе соцыялістычныя элемэнты, бярэм іх **толькі і бязумоўна**" (падкрэсьлена ў Леніна, т. XVII, стар. 137).

Мы кіруемся тут таксама словамі тав. Сталіна аб тым, што толькі праз крытычныя ўсваеньні і ўлік нацыянальных асаблівасьцяй можна стварыць новую культуру „нацыянальную па форме і пролетарскую па зьмесьце".

Мы прымаем усё **лепшае, пасьлядоўна дэмократычнае,** што ёсьць у творах Янкі Купалы ці Якуба Коласа, і адмаўляемся ад таго, што ёсьць у **іх анты-дэмократычнага, анты-рэволюцыйнага.**

* * *

Другая задача, якая паўстае перад намі, гэта — аналіз **соцыяльнай прыроды, ідэй і пачуцьцяў** поэзіі Янкі Купалы, яе моцных і слабых бакоў.

Я. Купала (Луцэвіч) упяршыню зьявіўся на літаратурнай арэне ў 1905 годзе, у той момант, калі на чарзе стаяла зьвяржэньне самаўладзтва паўстаўшымі рабочымі і часткаю сялянскіх мас былой Расіі. Беларусь (тады „северо-западный край") не ўяўляла сабой выключэньня з малюнку ўсеагульнага ўздыму.

Асноўнай задачай буржуазна-дэмократычнай рэвалюцыі 1905 году, як вядома, было экономічнае і палітычнае зьнішчэньне ў былой Расіі перажыткаў прыгоньніцтва, стварэньне рэспублікі з рабоча-сялянскай дыктатурай на чале для найбольш поўнага ажыцьцяўленьня дэмократызму ў грамадзкім жыцьці і хутчэйшага прасоўваньня да соцыялістычнай рэволюцыі. У адносінах да прыгнечаных нацый б. царскай імпэрыі асноўны сэнс буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі зводзіўся да нацыянальнага вызваленьня, да стварэньня „вольнай бацькаўшчыны".

Вядома, што тагачасная **патрыярхальная,** пазбаўленая большменш буйнай прамысловасьці і захаваўшая моцныя рэшткі фэадальна-прыгоньніцкіх адносін, Беларусь яшчэ больш, чым дзе-небудзь цярпела ад недахопу капіталістычных адносін.

Адсюль будзе зразумела, чаму 1905 г. і паўстаньне рабочай клясы ўзьнімалі вёску да патрабананьня „зямлі і волі" і прымушалі яе меншую частку, як пісаў Ленін, іньці „са зброяй у руках на зьнішчэньне сваіх ворагаў, на зьнішчэньне царскіх служак, памешчыцкіх абаронцаў". Поэзія Янкі Купалы адлюстроўвае, як гэты стыхійны рэволюцыйны ўздым, так роўна і яго хістаньне ў рэволюцыі, вось тыя настроі большай часткі сялянства, якая „плакала і малілася, рэзанэрствавала і марыла, пісала просьбы і пасылала „хадацеляў", — зусім у духу Льва Нікалаевіча Талстога *).

Як адбіліся гэтыя настроі сялянства ў паэзіі Янкі Купалы? Якімі ідэямі акрылялася яго сялянская ліра?

Калі мы зьвернемся да яго першых вершаў „Жалейкі" (1908 г.) і „Гусьляра" (1910 г.).—лепшых кніг з напісанага Купалаю, дык параўнальна лёгка заўважым наяўнасьць у іх ідэёвых і псыхалёгічных супярэчнасьцяй, іменна гэтага талстоўскага парадку.

Янка Купала ў сваіх першых песьнях заклікаў мужыкабедняка да „зямлі і волі" — у гэтым моцны, сапраўды дэмократычны бок яго паэзіі. Гэта мы знаходзім ужо ў яго першым вершы, надрукаваным у 1905 годзе пад назвай „Мужык", які, хоць у наіўнай форме, ужо выяўляе нарастаньне незадаваленьня сялянства сваім становішчам.

Апрача гэтага, у Купалы былі, асабліва ў 1905 годзе, і больш энэргічныя заклікі сялянства да волі:

„Пойдзем, пойдзем сабе здабываць свабоду.
Як адзін, як адзін дружна пойдзем!"—
— пісаў Купала ў 1906 годзе.

Другой яго заслугой зьяўляецца надзвычай рэалістычны, прасякнуты глыбокім спачуваньнем мужыку, паказ прыгоньніцкай экспляатацыі вёскі. Тут Купала выявіў такое глыбокае веданьне сапраўднага становішча старой вёскі, перадаў гэта такой простай, народнай мовай, што ён сапраўды за гэта заслугоўвае назву народнага поэты.

„Прэч з дарогі, мужык, абарванец ліхі
Што? паноў не пазнаў са двара ты сваіх?
Ну, хамула, на бок, а што? вышаў сухі?
Чорт, ляціць і крычыць і быдляча усіх".

(т. I, стар. 28).

Вось такімі і падобнымі да іх вершамі, у якіх гаварылася пра „долю пустасейную долю безьзямельную", поэт аб'ектыўна садзейнічаў росту рэволюцыйных настрояў сярод сялянства. **Іменна гэтыя непасрэдна сялянскія, рэалістычныя песьні** Купалы становяць яго сапраўдную поэтычную арыгінальнасьць.

Дадатнія ідэалы сялянскай масы ў выглядзе імкненьняў да „чорнага перадзелу" „зямлі і волі", або „вольнай бацькаўшчыны" — былі буржуазнымі ідэаламі. Паколькі Купала так ці інакш выяўляў і пропагандаваў памянёныя лёзунгі сялянскіх мас, пастолькі ён аб'ектыўна служыў прогрэсыўнаму **„амэрыканска-фэрмэрскаму" шляху разьвіцьця Беларусі.**

* * *

Пад адмоўнымі бакамі творчасьці Купалы першага пэрыяду, мы разумеем наяўнасьць досыць моцнага струменю містыцызму, папоўшчыны, нацыяналізму, талстоўскай пакорнасьці, варожасьці да гораду, романтызацыі фэадальнага мінулага і г. д. Усе гэтыя рысы ўжо ёсьць у „Жалейцы" і „Гусьляры", але, нарастаюць асабліва ў такіх пазьнейшых творах Купалы, як „Адвечная песьня", (1910 г.), „Раскіданае гняздо", „Сон па Кургане" (1913 г.), філёзэфія якіх лёгічна прывяла Купалу да славутага вершу „Прарок", ахарактарызаванага Д. Бедным „змеиным шипом" супроць пролетарскай рэволюцыі.

Другі пэрыяд у творчасьці Я. Купалы ў адрозьненьне ад першага, народна-дэмократычнага, адкрываецца зьяўленьнем „Адвечнай песьні" і „Сну на кургане" (1913 г.). Гэта пэрыяд „клясычнага нашаніўства", характэрнага тым, што матэрыялізм і дэмократызм Купалы зьмяняецца ідэалізм і сымбалізмам, ідэя нацыянальнага вызваленьня — містыфікаваным нацыяналізмам. Падобна таму, як „Наша ніва", зьяўляючыся буржуазна-рэакцыйным органам, таксама вельмі сымбалістычна адносілася да беларускага народу, пісала яго з вялікай літары падобна гэтаму беларуская поэзія часоў рэакцыі таксама ўсё больш адыходзіла ад рэальнага дэмократызму.

Усім ужо вядома яго славутая програмная заява аб тым: што „Наша ніва" служыць ня толькі адным мужыком. але і паном і мужыком". Гэта цынічная, але зусім праўдзівая заява беларускіх акцябрыстаў памешчыкаў і прадстаўнікоў контррэвалюцыйнай нацыянальнай буржуазіі.

* * *

Я. Купала, зьвяртаючыся да „Нашай нівы", казаў, што зерне кінутае ў ніву ўсходзіць ды красуе". Нельга сказаць, што тут выказалася адна наіўнасьць няведаньня таго, чым была ў сапраўднасьці „Наша ніва"; скажам больш, што тут ёсьць і непасрэдныя элемэнты апалёгіі нашаніўцаў. Вось гэта і ёсьць той самы адмоўны ўплыў, які адбіўся ў творах Купалы пэрыяду рэакцыі і пасьля яго.

У чым філёзофія „Адвечнай песьні", або „Раскіданага гнязда"? Па форме ў іх, як быццам, па-ранейшаму трактуецца „вечны" лёзунг сялянства пра вольную зямлю і вольную бацькаўшчыну. **Але толькі па форме.**

У сваёй-жа глыбокай філёзоўскай сутнасьці гэтыя творы рэакцыйны, бо прасякнуты ідэалізмам і містыкай. У „Адвечнай песьні" Янка Купала ўводзіць „бяздольнае жыцьцё" мужыка, яго хрысьціянска-таўстоўскае мысьленьне на абсалютны біялёгічны і сацыяльны закон „іжэ не пройдзешы".

„Раскіданае гняздо"—гэта завяршэньне сымбалічнага цыклю, якім Купала ў ідэалістычна-містычнай форме даў адказ на проблему „Вольнай бацькаўшчыны". Апошні твор, праўда, пазбаўлены таго крайняга філёзоўскага пэсымізму, які мы наглядалі ў двух першых. („Мы лічым, што тут сказаўся новы рэволюцыйны ўздым, што пачынаўся з 1912 году). Аднак-жа, чытач дарэмна будзе шукаць у драме тых дзейных сіл, якія

*) Ленін, „Леў Таўстой, як люстра расійскай рэвалюцыі"

маглі-б змагацца за новае жыцьцё, за „бацькаўшчыну“, як піша аб ёй Купала.

Купала, які знаходзіўся ў зачараваным коле ідэалёгіі „артадаксальнага нашаніўства“, не заўважваў рэальных зрухаў у соцыяльна-гістарычным жыцьці краіны, ня бачыў тэй адзінай сілы, якая магла вывесьці сялянства на шлях барацьбы і перамогі пролетарыяту гораду, які зноў станавіўся тады на чале рэволюцыі.

Паўтараем, мы ня ставім у асабістую віну Купале таго, што ён быў далёкім ад тэй глебы, на якой вырастала і фармавалася новая рэволюцыйная сіла ў выглядзе гарадзкога пролетарыяту Беларусі, з новым сьветапоглядам на жыцьцё. Мы толькі канстатуем гэты факт і тое, што вынікае з гэтага факту для творчасьці поэты. Адным-жа з гэтых вынікаў былі ідэалізм, містыка і пэсымізм, характэрныя для творчасьці Купалы эпохі рэакцыі. Ня гледзячы на фармальныя якасьці гэтых твораў, мы, аднак, ня можам лічыць іх **ні лепшымі, ні нават арыгінальнымі творамі**,

У гэты пэрыяд творчасьці Купала аддаў даніну і шовінізму, які ахапіў дробна-буржуазную інтэлігэнцыю ў пачатку вайны. У 1914 годзе ён зьмяшчае ў „Нашай ніве“ (№ 40) верш „Песьні вайны“, які адзначаецца ўра-патрыятычным настроем.

Гэты верш паказвае, як далёка не зразумеў Купала **імпэрыялістычнага** характару вайны (ды наогул эпохі імпэрыялізму), якая менш за ўсё мела на мэце „волю вольнай грамадзе“. Вось чама на працягу вайны поэта, хоць і ня пісаў, здаецца, больш падобных ура-патрыятычных вершаў, затое і ня мог стварыць амаль нічога моцнага антываеннага: пацыфізм, элёгізм, журба — вось дамінуючая нота яго нямногіх „ваенных“ вершаў. Чаму? І тут адбіўся ўплыў на Купалу рэакцыйнай сацыяльнай філёзофіі „нашаніўства“, якое ў часе вайны было звычайнай „беларускай фракцыяй“, агульна-імпэрскага патрыятызму і шовінізму.

* * *

1917 год наогул ня выклікаў у поэты творчага ўздыму і не пакінуў прыкметных орыгінальных сьлядоў у яго поэзіі. Для нас-жа насумненна тое, што прычыны тут былі ідэйна-клясавага парадку. Янка Купала—прадстаўнік дробна-буржуазнай дэмократыі, пя бачыў таго, што „народ“ ужо даўно страціў свой „па-за клясавы“ характар, падзяліўшыся на адкрытых прыхільнікаў і ворагаў рэволюцыі—на буржуазію, памешчыкаў і кулакоў, з аднаго боку, і пролетарыят, вясковую беднату і рэволюцыйных салдат — з другога. Першая частка „народу“, з якім зьліваліся ўсе так званыя дэмократы, выступала супроць другой—сапраўды беларускага народу, беларускіх рабочых і сялян, натхняючы розныя акупацыі, паўстаньні супроць рэволюцыі, распаўсюджваючы ідэі рэакцыйнага нацыяналізму.

Янка Купала, як поэта, займаў сваю позыцыю ў гэтых супярэчнасьцях клясавай барацьбы, ня зьліваючыся цалкам з нацыяналістычна-буржуазным лягерам. У часы нямецкай окупацыі, напрыклад, ён пісаў:

„Табе, народ мой, сгібнуты ў аковах,
З-пад сэрца песьню гэтую пяю...
... Чужак—дзікун, крывёю ўпіўшысь,
Запрог цябе ў няволю, у батракі...“.

Свой верш ён канчаў тады заклікам: „Паўстань народ! Прачнеся беларусе!“. Гэта зразумела іншыя настроі за тыя, якія несла пролетарская рэволюцыя. Тым ня менш мы адзначаем іх прогрэсыўнасьць у параўнаньні з поўным маразмам, здрадніцтвам і рэнэгацтвам „таварыства Лёсік, Луцкевіч і К°“, што гандлявала „беларускім народам“ ва ўсіх перадавых буржуазных міністэрствах Эўропы.

* * *

Канец 1918 году—гэта пэрыяд гераічнай барацьбы Чырвонай арміі рабочых і сялян Беларусі з акупантамі Доўбар-Мусьніцкага і кайзэра Вільгельма. Гэта барацьба скончылася перамогай рэволюцыі і ўрачыстым—1 студзеня 1919 году—абвяшчэньнем незалежнай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Як адгукнулася Купалава „ліра“ на гэтыя падзеі? Ня будзе паклёпам на поэту, калі мы скажам, што ў ёй не знайшлося адпаведных струн, каб засьпяваць ва ўнісон з пераможнай песьняю рабочых і сялян Беларусі. У ёй, яго ліры, знайшліся струны, або па-ранейшаму мінорныя, або смутна-сымбалічныя, у лейт-мотыве якіх усё-ж можна было пачуць нездаваленьне і няпрыхільнасьць. У той самы момант (сьнежань 1918 г.) Купала мог толькі даць сваіх „Паяжджан“, у якіх падзеі часу ўяўляліся ім „па-блокаўску“.

Наогул адбывалася „штосьці Безназоўнае“, якое больш пужала, чым оптымістычна натхняла ліру Купалы.

Не адмаўляем. што былі ў Купалы і лепшыя вершы, чым „Паяжджане“, але нас цікавяць тыя з іх, якія вызначалі яго **ідэёвую домінанту**, а не асобныя выпадковыя праяўленьні пачуцьцяў. А гэтай домінантай быў **жах дробна-буржуазнага, непазбаўленага нацыяналізму інтэлігента, які, не ўяўляючы сутнасьці пролетарскага інтэрнацыяналізму**, сьпяваў на **стары** лад, або **містыфікаваў** рэчаіснасьць у сымбалічных словах і вобразах; зразумела, што гэты жах з яго пераходамі ад радасьці да расчараваньня меў сваю соцыяльную глебу ў позыцыі заможнага сялянства, часткі серадняцтва, і гарадзкой дробнай буржуазіі ў рэволюцыі. Адсюль, напрыклад, вырас „Прарок“ Купалы, аб якім мы ўжо гаварылі вышэй, а таксама вядомая ўсім яго п'еса „Тутэйшыя“, дзе буржуазны нацыяналізм даходзіць да крайніх разьмераў.

* * *

Годы жорсткай барацьбы—1918—20, якія патрабавалі так многа гераізму і адданасьці з боку рабочых і бядняцка-серадняцкіх мас Беларусі, нарэшце скончыліся перамогай. БССР стала гістарычным фактам. У гэтай барацьбе працоўных мас за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне быў **толькі адзіны кіраўнік і правадыр—комуністычная партыя бальшавікоў.**

Барацьба рабочых і сялян Беларусі эпохі 1918—20 гг. не прайшла бясьсьледна для Янкі Купалы. Калі ён не разумеў інтэрнацыяналізму і канчатковых мэт гэтай барацьбы, дык усё-ж ён ня мог ня бачыць, што няма ніякага другога „народу“, які-б мог зьдзейсьніць нацыянальныя ідэалы паэты, адбудаваць „вольную бацькаўшчыну“. Лепш за ўсё выявіўся гэты настрой Купалы ў вершы „Шляхам гадоў“ (1925 год), у якім паэта прабуе падвесьці вынікі чвэрцьвяковаму жыцьцю. Верш канчаецца бадзёрымі оптымістычнымі радкамі:

„Дык-жа шумі, красуй у волі, родны край!
Зьвіні ў свой зон, сялянска-пралетарскі звон!
Сьпявай ты, Беларусь, у радасьці сьпявай!
Твайго народу сёньня права і закон“.

(т. VI, стар. 165).

У савецкі пэрыяд творчасьці Янка Купала напісаў нямнога і, скажам адкрыта, напісанае ім — ня есьць лепшае ў яго „спадчыне“. Поэта даў некалькі сваіх водгукаў на рэволюцыйна-грамадзкія падзеі з жыцьця Савецкай Беларусі, у якіх мы знаходзім характэрныя думкі і пачуцьці для Купалы—народнага паэты. Да такіх твораў мы адносім „Дыктатура працы“, „Зыходзіш вёска з яснай явы“, „Летапіснае“, „Піянэрскае“ і інш.

Ня будзем скардзіцца на поэту за тое, што нават у сваіх вершах ён гаворыць старымі словамі, а часам і думкамі: мы зараз ведаем, чаму не магло быць і ня было ў яго поўнага і яснага разуменьня савецкай рэчаіснасьці. Заслугоўваюць увагі ў гэтых вершах настроі, якія Купала выявіў у наступных словах, прысьвечаных 10-годзьдзю БССР:

Зарунеюць палеткі
Руньню буйнай, сачыстай,
Людзі працу ўшануюць
Бяспрыгонна, ўрачыста.
Нацыянальная сварка
Ужо ў нас месца ня знойдзе,—
Чалавек чалавеку
Будзе братам па праўдзе...“

(т. VI, стар. 183).

Ня гледзячы на народніцкі гуманізм гэтых радкоў, тут мы наглядаем нейкую важную зьмену ў духоўным абліччы поэты. Бязумоўна, ён па-свойму ўяўляе сутнасьць дыктатуры працы, бачачы яе, так сказаць, „жалезны бок“, а ня ўсю шматгранную сутнасьць. Таксама няясна разумее паэт новыя зрухі, якія ўнесла колектывізацыя, тэй жорсткай клясавай барацьбы, якая суправаджала колектывізацыю. Але важна тое, што Купала, поэт „нядолі мужыка“, разумеў, што мінулае — той стары, „нежаданы сон“ для новай вёскі бясьсьледна згінуў, а з ім і старыя песьні пра „долю-няволю“:

„Тваіх жалеек сьпеў гаротны
Патопча трактарнае кола,
А сейбіт твой дасюль самотны
Абцёршы сонцам воблік потны
Пад крыж ня пойдзе енчыць квола“.

(т. VI, стар. 159).

І, зразумела, для нас здаюцца архаічнымі словы аб „вернападаным народзе“, які ўжывае тут Купала, малюючы вобразы новай вёскі. Да змагароў за соцыялістычную колгасную вёску, якіх налічваюцца мільёны, гэтыя словы яўна не падыходзяць. Вось на гэтым пункце ўспрыняцьця нашай савецкай рэчаіснасьці спыніўся і зараз знаходзіцца Янка Купала.




Малюнкі ПАШКЕВІЧА

*Комэдыя Р. Кобеца і Ан. Вольнага*

Амэр. бог: Ліхаманкавы тэмп жыцьця жорсткая конкурэнцыя, біржавыя спэкуляцыі,—усё гэта патрабуе і адпаведных рэформ ад рэлігіі. Імітатары салісты на барабанах, віртуозы на калакалах, маладыя поэты, пачынаючыя компазытары—вось хто выступае ў маіх амэрыканскіх парквах. Апошнія часы ў некаторых царквах уведзена новая цікавая рэформа, гэта насьвістваньне гімнаў замест сьпеваў...

Ягова: Гэткім чынам у вашых царквах абрад выконваюць не пастары, а сьвістуны.

Амэр. бог: Запэўняю вас, Ягова, што каб вы жылі ў наш час, вы-б былі галоўным галкіперам у нашай царкоўнай камандзе. Але мала яшчэ даць царкве патрэбны для нашага часу рэпэртуар. Трэба яшчэ веруючага прыцягнуць у царкву. Тут на дапамогу царкве прыходзіць рэклама. „Рэклама рухавік гандлю". Гэта сьвяты прынцып. У гэтай рэкляме вялікая частка нашага прыбытку. Пасьля добрай царкоўнай рэклямы посьлех для яе забясьпечаны, асабліва калі ў царкве ёсьць більярдная. Зусім зразумела, што львіная доля нашых даходаў—даходаў царквы паступае ад буйнае буржуазіі. Адгэтуль для ўсіх вас відавочна, што царква ў сучасных абставінах залежыць амаль выключна ад буйнага капіталу. Адгэтуль ясна і галоўная задача нашага конгрэсу, гэта далейшае дапасаваньне рэлігіі да інтарэсаў капіталу. (Воплескі).

Аллах: Слова для справаздачы мае праваслаўны бог.

Бог: Скажу проста,—нашая справа—табак. Я сваё слова пачну з прапазыцыі (з уздохам). Прасіць амэрыканскага бога аб доўгатэрміновай пазычцы...

Амэр. бог: Гэты нумар ня пройдзе.

Ісус: Уношу прапазыцыю за позьнім часам справаздачу майго бацькі адкласьці на раніцу, а зараз перайсьці ў блакітную залю, дзе ў гонар кангрэсу адбудзецца банкет.

Галасы: Правільна... адкласьці.

Бог: Ну добра... Як усе, так і я. Дык калі ласка, дарагія госьці, пяройдзем у блакітную залю.

(Багі прыпадымаюцца з месц і пераходзяць у блакітную залю, па дарозе Ісус зварочваецца да свайго бацькі).

Ісус: Бацька, я думаю, што пасьля банкету гэты амэрыканскі бог будзе больш згаворчывым з намі. І сам сяду каля яго.

Бог: І пабольш падлівай яму віна, сын мой.

### АБРАЗ 10.

Блакітная заля.

Чуцен шум рассуваемых сталоў, звон пасуды, оркестр, чутны галасы.

Бог: Высокашаноўныя богі і вы шаноўныя госьці, перад тым як падняць першы тост на нашым банкеце, я хачу прапанаваць на ўспамін аб нашым конгрэсе сфотографавацца ўсім прысутным тут багам. (Воплескі).

(Уваходзіць фотограф з вялікім фотоапаратам).

Фотограф: Высокія богі, адну хвілінку ўвагі. Адна ўспышка магнія і ўсё будзе гатова. (Глядзіць у апарат). Высокі Аллах, не адсоўвайце бутэлек, бо нельга рухацца перад апаратам. (Зварочваецца да асьвяціцеля). Папраўце зьзяньне над галавою бога. (Устанаўлівае апарат). Вось так, зрабеце задумлёныя выразы твару. Больш гневу ў вачах. Вось так. Ісус зрабеце больш млосны твар, нібы вы цуд робіце. Вось так. Мікола чудатворац, пастаўце на стол бутэлькі. Ну вось і гатова. (З-пад сукенкі глядзіць у апарат). Вышэй галавы. Увага. Здымаю... Раз, два, тры... гатова. Дзякую. (Складае свой апарат і выходзіць. Музыка. Музыка грае цішэй).

Аллах: (У поўгалоса зварочваецца да Магомэта). Прарок. Меней пі, а больш слухай, што твой брат амэрыканскі бог гаворыць. (Музыка. Грае цішэй).

Амэр. бог: (зварочваецца да польскага). Пан буг, прыслухайся, што там гэты стары магомэтанскі ліс бармоча. (Багі выпіваюць і закусваюць, грае музыка).

(Падымаецца каталіцкі бог).

Кат. бог: Я падымаю гэты бакал віна за самага магутнага ў сьвеце бога і майго высокачцімага старэйшага кузэна французскага бога.

Ягова (да праваслаўнага). Гэты каталіцкі бог ужо напэўна пазычыў грошай у свайго старэйшага кузэна.

Бог: Так яно і мне здаецца, бо гэты іезуіт да пазыкі кожнага старэйшым называе, нездарма-ж у яго і дэвіз гэткі. Мэту апраўдваюць сродкі.

Ягова: Патрасьлі-б яго гэтага французскага бога так як выбачайце вас, божанька, у момант-бы гэты іезуіт адцураўся-б на сваю радню. Але паслухаем. Амэрыканскі бог хоча гаварыць,—я і яму рэпліку кіну.

Амэр. бог: Высокія богі. Я вельмі шчасьлівы чуць, што і вы рашылі пайсьці па шляху рэканструкцыі рэлігіі і дапасаваньня яе да абставін сёньняшняга дню. За гэтыя рэформы рэлігіі я падымаю бокал.

Галасы: Віват.

Ягова (да праваслаўнага бога). Пачынае добра, але паслухаем далей чым ён дыша.

Амэр. бог: Але я павінен зазначыць, што і ў гэтым пытаньні я значна апярэдзіў вас.

Ягова: О...

Амэр. бог: Так яшчэ ў 1929 г. мае амэрыканскія спаведнікі склалі наступную да мяне малітву замест старых і аджыўшых. Малітва гэта завецца так: удзячная малітва дзелавога чалавека.

Ягова: Як прыйдзе рэвалюцыя, дык вам і гэтая малітва не дапаможа.

Галасы (шум).

Аллах: Прызываю да парадку.

Амэр. бог: Я агалашаю высокаму банкету тэкст гэтай малітвы. Вось ён. „Бог дзелавых людзей, дзякую табе за трэск пішучых машынак у маіх вушах і за прыгожых машыністак, на якіх прыемна глядзець. Дзякую табе за насільшчыкаў,

якія заўжды гатовы падхапіць мой багаж, за таксі, хуткія цягнікі, безапасныя брытвы, і за рэчы санітарыі і гігіены. Дзякую табе за тэлефоны і тэлеграф, якія злучаюць мяне з маім палацам, дзе-б я ні знаходзіўся. Дзякую табе за канкурэнцыю, якая прымушае нас імкнуцца да новых дасягненьняў. Дзякую табе за радасьць барацьбы, за дрож перамогі, за мужнасьць пры паражэньні, якія павінны быць уласьцівы джэнтльмэну. Дзякую табе за гадзіны адчаю, за адзінокасьць і сардэчную боль, якой ты выпрабаваў маю мужнасьць. Дзякую табе за дзяцей, сяброўства, рыбную лоўлю. За гульню ў гольф, за трубку, камінны агонь у халодны вечар. Амінь. (Воплескі).



ПУПОЧАК: ВОСЬ ГЭТАК І МАЯ ЖОНКА НЕКАЛІ СКАКАЛА

Амэр. бог: Гэтая малітва да бога ўведзена ў Злучаных Штатах з сакавіка 1929 г. Вядома яна крыху ўстарэла. Але калі ўвесьці ў гэтую малітву яшчэ разьдзел аб крызісу, то яе можна будзе лічыць сучаснай. Я падымаю тост і п'ю за гэтую малітву. (Звон бакалаў).

Ягова: Амэрыканскі бог чытаў свае малітвы, паглядваў у мой бок і ўсьміхаўся. Няма чаго паглядваць і ўсьміхацца. Калі я нёкалькі тысяч гадоў таму назад пісаў свае малітвы, то гольфа тады ня было, безапасных брытваў таксама. Так што няма чаго паглядваць і ўсьміхацца. Каб я ў сучасны момант даваў свае малітвы, то і я-б не адстаў ад амэрыканскага бога і нават такі пункт уставіў: „І яшчэ малю цябе божа, калі я з суседам гуляю ў вачко, каб я дваццаць два ня выцягваў і гэтак у кожнай гульне. Амінь (воплескі).

Кат. бог: Высокія богі. Будзем спрачацца ў часе працы конгрэсу, а зараз банкет. Тут павінны гучаць тосты, а ня спрэчкі. Я падымаю гэты бакал за...

Ягова: (З месца). Майго старэйшага кузэна французскага бога... Мы гэта ўжо чулі пан буг.

Кат. бог: Я вас не перабіваў, а пакольк мяне перабіваюць я адмаўляюся ад тосту.

Ягова: (да праваслаўнага). Ён ужо пазычыў.

Франц. бог: Тост, пачаты маім кузэнам, даканчу я. Я падымаю гэты бакал за майго малодшага родзіча.

Ягова: Піце сабе самі на здароўе.

Кат. бог: Я прызываю Ягову да парадку. (Званок калакольчыка, шум).

Магамэт: Высокія богі. Аллах прывёз з сабою некалькі гурый, якія даюцца ў жонкі прававерным мусульманам. Калі высокія богі жадаюць, гурыі Аллаха выканаюць усходнія скокі ва славу Аллаха. (Бурныя воплескі).

(Музыка пачынае граць усходні танец. На сцэну выходзяць балерыны, лёгка апранутыя газавымі вопраткамі. Пачынаюцца экзальтаваныя ўсходнія скокі. Багі прыціхаюць: усё пільней углядаюцца ў балерын. Прыпадымаюцца з месц. Праваслаўны божанька выцягнуў бінокль і глядзіць. Марыя-макдалена, якая сядзела побач з амэрыканскім богам прычыняе яму далонямі вочы, але той вырываецца. Пупочак, які ў ролі асьвяціцеля сядзеў на вышцы з боку сцэны і рабіў зьзяньне над галавой бога, ледзь ня скідаецца з месца).

Пупочак (са стогнам). Вось гэта рэлігія. (Праваслаўны божанька ссунуўся моцна ў бок, так што зьзяньне засталося на тым-жа месцы, дзе ён быў, а галава божанькі ў другім. Багі глядзяць не адрываючыся на экзальтаваныя скокі прыгожых балерын).

Польскі бог (да французскага): Заўважце, божанька,— а ножкі... ножкі якія...

Амэр. бог: (да каталіцкага). А вунь у тэй радзімка каля пляча... Эх...

Ягова: (да праваслаўнага бога). Прыдзецца нам з вамі, божанька, зьвярнуцца да проф. Воранава наконт амалажэньня.

Аллах: (да Магомэта). Здаецца нашая рэлігія робіць уражаньне.

(... А калі музыка скончылася і балерыны выбеглі са сцэны, стаялі багі далёка вылезшы са сваіх месц, крыху разгубленыя. Першы ачуняў праваслаўны бог, ён агледзіўся, схаваў бінокль, потым, заўважыўшы зьзяньне, якое было не над яго галавою, а недзе блукала па сьцяне, бог крыкнуў на Пупочка, які яшчэ ня прышоў у сябе).

Пупочак (у задуменьні)... Вось гэтак-жа і мая жонка некалі скакала... Эх...

Бог: Гэй ты, там... Сласталюбец. Ісьцінна глаголю табе глядзі за сьветам, а то кватэру адбяру, у пекла сашлю, да самога люцыпара.

Пупочак: (прыходзіць у прытомнасьць, папраўляе сьвет, гаворыць). Правільна сказаў Кузьма Пруткоў. „Удивляй, брат мой, но не падражай“.

(Раптам раздаецца трэск, стук і крыкі. У памяшканьне ўбягае перапалоханы сатана).

Сатана: Ратуйся, грамадзяне... Сюды ідуць..

Галасы: Хто ідзе? Што здарылася?

Сатана: Чырвонаармейцы і рабочыя.

Пупочак: (саскаквае з вышкі). Ратуйся, хто ў бога верыў...

Сатана: Пекла ўшчэнт разьбілі... сам ледзьве ўцёк... Чарцей усіх паразганялі... Ратуйся...

Бог: Ільля. Падавай калясьніцу... уцякаць будзем... Ды грошай не забудзься... Бяз грошай, як мухі загінем.

Галасы: Хутчэй! Куды ўцякаць?

Галасы: Дружней!

(Стук прыкладам у дзьверы. Дзьверы адчыняюцца. Першай убягае жанчына з чапялой).

Жанчына: Сюды таварышы!

Галасы: Нікога!

Паўцякалі!

Шкада!

Бяспрыт: А вось. А гэта-ж чые ногі тырчаць. А нука вылазь. Э-э-э... а іх тут шмат...

(Вылазіць з-пад стала бог, Марыя Магдалена, Ягова, Аллах, Пупочак).

Пупочак: Таварышы! Чырвоная армія! Усур'ёз і надоўга...

Камандзір: Надоўга.

Пупочак: Ура... Ура... Хай жыве савецкая ўлада. Далоў рэлігію—опіум для народу.

Камандзір: А вы-ж хто будзеце?

Пупочак: Абываталь я... Служачы... Вось і некралог пра мяне „С прискорбием и болью в душе“...

Камандзір: Досыць ... Няма часу чытаць... А гэта хто?

Пупочак: А гэта самы галоўны эксплёататар бог саваоф... А гэта сын яго Ісус. А гэта нявестка ягоная Марыя-магдалена... Але-ж яны ў Загсе не запісаны, а гэта Ягова, а гэта Аллах.

Камандзір: А дзе астатнія богі. Амэрыканскі, напрыклад.

Пупочак: Уцяклі. Амэрыканскі хутчэй усіх... Даганяйце іх, таварышы, а мы тут пабудзем.

Камандзір: Дагонім... Узвод, падрыхтуйся да пагоні.

Чырв-II. А з гэтымі што рабіць? (паказвае на багоў і на Пупочка).

Камандзір: Ліквідаваць як клясу

Чырв-II: і абываталя...

Камандзір: І яго.

Чырв-II: Ну, паварачвайцеся, грамадзяне. На ліквідацыю шагам арш.

(Выходзяць).

Камандзір: За ўцякаючымі багамі справа па тры галопам аршш...

Пупочак: Божанька ратуй! Ратуй бажа! Ратуй!

Бог (садзіцца ля люстэрка разграміроўваецца) Фініта ля комэдыя! Комэдыя скончана (глядзіць на гадзіньнік). Час позьні! Мы-ж толькі персонаж комэдыі, якую вы толькі што праслухалі.

Грымёр Пупочак! Разгрыміроўвацца! Абываталь! Дзе абываталь?

Бог (сьціраючы з твару грым). Ён пашоў у публіку... Вось там (паказвае на публіку). Сядзіць недзе...

Грымёр: Трэба-ж яго разгрыміраваць!

Бог: Яго разгрыміруе Савецкая грамадзкасьць. Гэта яе справа!

*Канец.*

ЮЛІ ТАЎБІН

# СЬМЕРЦЬ

I

Калі я буду паміраць і рабіцца дакучным целам...
А я хачу, каб гэта было няхутка,—таму
Я цяпер хачу жыць, жыць—жыць жыцьцём,
аднаму мне зразумелым;
жыцьцём, уласьцівым толькі мне аднаму,—
Бачыць сонечныя цапкі на брудным вакне,
Акунаць свае цела ў халодныя ўлоньні рэчак
Плысьці на моры ў рыбачым чаўне.
Хадзіць па полі сярод цнатлівых грэчак.
Я хачу спатыкаць сяброў і таварышак, маладых і сталых.
Хачу даверлівых жаночых пацалункаў
і поціскаў моцных мужчынскіх рук.
Каб адчуваньне жыцьця ніколі мяне не пакідала
Поўнае і шматкаляровае, як вясёлкавы паўкруг.
Я хачу наведаць аграмадныя гарады,
Незнаёмыя краіны з мовамі чужымі;
Я хачу, каб сьвет паветра, сухазем'я і вады
жыў, дрыжэў у кожнай, самай дробнай маёй жыле.
Каб мяне хвалявалі
страты, здабыткі, разьвітаньні і стрэчы;
Каб я мог сказаць пра сябе:
— Я жыў, покуль тэрмін мой не прайшоў:
Каб мяне працінаці сваёю магутнасьцю рэчы
Блізкіх маіх спадарожнікаў і таварышоў.
Хачу жыць, падаючы,—але не занепадаючы
Высока паднятым сілай часоў,
здабыць сталае месца на кулі зямной.
Ведаю свае заганы.
Але—гэта мая задача—
Мне—дваццаць першы год.
Жыцьцё не за, а перадамной.

II

Гэта было, ёсьць і гэтага ня можна абыйсьці?
А?
Чалавек прачынаецца ўначы. Ледзь
Сьвітае. Рана. Халодны пот у яго на чале.
Ён пачынае думаць аб сьмерці і аб жыцьці.
А-а!..
Як? Я памру?
„Я“, катораe сьмяецца, плача і ўсё такое..
І ня будзе ні болю, ні радасьці...
Спакой... і ня будзе нават спакою...
Як?
Дзе-ж твае адчуваньні і мысьлі?
Каханьне? Нянавісьць? Гордасьць? Адданасьць? Сьмеласьць?
Іх няма.
Яны—„як з няжылога дому выселены“...
Засталося мёртвае, непатрэбнае цела.
Людзі будуць падаць, падымацца,
адступаць і пераходзіць у наступ;
дасягаць вялікіх мэт, пра якія ты толькі марыў, бядак...
Ад цябе застанецца прытаптаны магільны насып
ці няўцямная жменька попелу...
Як?
А-а!.. Чалавек пачынае варочацца і злаваць,
Рыпець зубамі, шукаць папярос ці брому...
Вялікім страхам і крыўдай сьціскаюцца ў яго сэрца і галава...
Але гэта вам усім павінна быць вядома.

III

Я—оптымісьт.
Не з пароды шашлычных барашкаў,
што верашчаць, самі ня ведаючы—каму і навошта.
Мне бывае цяжка.
Мне бывае дужа цяжка.
Хоць ты біся аб сьценку.
Але я помню вось што:
Кожны дзень адбываюцца нараджэньні і сьмерці.
Сягоньня нарадзіліся—рухавыя мурашкі,
чалавечы дціёнак і яблынавыя лісткі.
Цела мае пахаваюць, як непатрэбнае сьмецьцё
І замятуць мае косьці сіверныя пяскі.
Кожны з нас гэта ведае і разумее.
Розны нашага жыцьця памер, але ўсе мы сьпяшаемся
болей зрабіць для адзінай нашай ідэі,
Покуль нас не зачапіла сьмерць.
Кожны з нас па рознаму памірае.
Ці на ложку, ці ў бойцы—
кожны сілы па кроплі аддасьць,
кінуўшы іх у топку
адзінаму ў сьвеце краю,
каб выраслі—
песьня, жыта, руда.
Каб расьлі мы, расьлі нашы дзеці і дзяцей нашых дзеці.
Каб жыла наша любая плянэта Зямля—
ўвек!
Каб—сягоньня, і заўтра, і сотні гадоў пасьля—
Устаў вольны і непадлеглы волат. Чалавек!

IV

Калі я буду паміраць, я хачу, каб сыйшліся мае сябры,
Каб мы з імі разам пражыты адцінак прааналізавалі.
Сыграйце тады мне Бэтговэна „Марш № 3“—
рашучы нясхільны і мужны, як мы з вамі.
Тады я перамагу гэты агідны страх,
Гэты ганебны страх мізэрнай жывёліны
Тады я буду паміраць
Спакойны і вольны.
Прачытайце пару Гайнавых сатыр каторых,
Каб я мог са сьмерці злосна пакпіць і яе ўзварушыць,—
Выбярэце лепшае ў маіх і ў вашых творах
Пацісьніце мне рукі,
таварышы.
А калі асаблівае слова назаву,
І дванаццаць начы прагрукочуць мерна—
Наладзьце радыё-прыёмнік на Маскву,
на станцыю імя Камінтэрна.
Каб лынуў мне ў грудзі вецер сьвежы
стрыманым гімнам узбураных мас,
каб музыка
гадзіньніка з Крамлёўскае вежы
дайшла да мяне
ў мой апошні час
Увайшла ў сьвядомасьць
шырокім штормам
І пагадзіла, як вечны працяг
Са стратай вялікага і непаўторнага,
Уласьцівага мне аднаму жыцьця.

V

Але покуль—паміраць я ня маю права,—
І ня хочацца,
і, папраўдзе, неяк нязручна...
Кожная дробная жыцьцёвая праява
робіць мяне узрушаным.
Нябывалая вострасьць
адчуваньняў і ўспрыйманьняў—
Зрокавых, слыхавых,—
нязьлічоных іншых.
Хочацца бегчы навыперадкі з трамваямі.
Поўна думак,
вынашаных і нявынашаных.
Вясна.
Зацьвітае парэчка і эгрыс,
яблыня і смародзіна.
Прыходзяць ўпэўненасьць,
працавітасьць—усе найлепшыя якасьці.
Блуканьні наўскос
і памылкі пройдзенага
адступаюць,
зразумелыя ў ракурсе.
Будзем жыць, жыць!
Жыцьцё патрэбна ўсім нам,—
Паміраць няма ніякай рацыі.
Будзем жыць,
жыць жыцьцём уздымным—
Хопіць кожнаму з нас працы.
Я хачу, каб мы адчулі гэта
ўсе—
Прагу да жыцьця
і радасьць дасяганьня мэты.
Ператвараючыся
пакрысе
у бурах і ў штурмах,
у новай красе
Ўстае перад намі
аблічча плянэты.
І ў гэтым сэнс нашага жыцьця
Надзвычай кароткага
і надзвычай напоўненага,
неабсяжна-вялікага
любага жыцьця,
Прагаю нашай напоенага.



ФОТО ПАЛІЧАНСКАГА

УДЗЕЛЬНІКІ ПРАБЕГУ НА 3 клм. НА ПРЫЗ МІЖНАРОДНАГА ЧЫРВОНАГА ДНЮ (1-га ЖНІЎНЯ) НА ГАРАДЗКІМ СТАДЫЁНЕ.



т. ЕРАПІНОВІЧ (ЗАВ. „КАМУНАР“, МЕНСК) ПЕРШАЯ ПРЫШЛА ДА ФІНІШУ Ў 3-х клм ПРАБЕЗЕ.



К-ДА Ф-КІ „УСХОД“ (МЕНСК), ЯКАЯ ЗАНЯЛА II МЕЙСЦА Ў 3-х КІЛЁМЭТРОВЫМ ПРАБЕЗЕ (ЖАНЧЫН) 1 ЖНІЎНЯ.



К-ДА „ДЫНАМО“, ЯКАЯ ПЕРШАЙ ПРЫШЛА ДА ФІНІШУ Ў 3-х клм. ПРАБЕЗЕ 1 ЖНІЎНЯ.

---

**Братэрская солідарнасьць пролетарскіх фізкультурных арганізацый усіх краін — моцны сродак супроць пагрозы новай імпэрыялістычнай вайны.**

Пад рэдакцыяй Я. КАМЯНЕЦКАГА



## V Усебеларускі шахматна-шашачны зьезд

### Камандныя прафсаюзныя спаборніцтвы

У камандных прафсаюзных спаборніцтвах прыняла ўдзел пяць каманд па 6 чалавек у кожнай. Такі малы лік каманд тлумачыцца, па-першае, слабасьцю арганізацыйнай работы па прафсаюзнай лініі, дзе шахматы і шашкі лічацца справай сэзоннай, а летам моў імі няма калі займацца; па-другое—працаўнік ЦСПСБ па ш-ш рабоце камандыраван ВСФК СССР у Таджыкістан, што не магло не адбіцца на падрыхтоўчай працы да зьезду.

На першае і другое месца вышлі швэйнікі і скурнікі.

| | Каманды | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | Разам | Месца |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Швэйнікі . . . . | * | 3½ | 3½ | 3 | 3 | 13 | I—II |
| 2 | Скурнікі . . . . | 2½ | * | 3 | 4 | 3½ | 13 | I—II |
| 3 | Мэталісты . . . . | 2½ | 3 | * | 3½ | 3 | 12 | III |
| 4 | Саўгандльслужачыя . | 3 | 2 | 2½ | * | 3½ | 11 | IV—V |
| 5 | Харчавікі . . . . | 3 | 2½ | 3 | 2½ | * | 11 | IV—V |

На першай дошцы па шахматам лепшыя індывідуальныя вынікі далі Прупэс (швэйнікі) і Кейлес (скурнікі) +3½ з 4. Па шашкам Гелемсон (харчавікі) +3½, а за ім Ліхадзіеўскі +2½.

Сярод удзельнікаў зьезду 11 чалавек поўнасьцю здаўшых нормы і атрымаўшых значок ГПА.

28 быў праведзен спэцыяльны фізкультурны тур, калі ўсе ўдзельнікі зьезду здавалі нормы на значок ГПА.

30 распачалася дзелавая частка зьезду.

### Жаночы турнір на пяршынство БССР па шахматам

Жаночы турнір на пяршынство БССР па шахматам сабраў у гэтым годзе сем удзельніц. Гэты лік сьведчыць нам аб тым, што шахматна-шашачная работа сярод жанчын пастаўлена нездавальняюча. У радзе РСФК мы мелі і маем простае ігнараваньне гэтай работы. Так надалей працягвацца ня можа. Пералом павінен быць і будзе.

Першае месца не без барацьбы заняла Мееровіч. Яна выйграла 5 з 7. Ігра яе заслугоўвае вялікае ўвагі і бязумоўна, што пры далейшай вучобе, яна ў наступных усесаюзных жаночых спаборніцтвах пакажа яшчэ лепшыя вынікі. На 2-е выйшла Сабалеўская +4½ з 6. За ёй Гарб+4. 4-е заняла Ліпман з выйгрышам у пераможцы. Падрабязныя вынікі паказвае ніжэй зьмяшчаемая табліца.

Пераможцы прысуджана званьне лепшай шахматысткі БССР.

| | Удзельніцы | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | Разам | Месц. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Мееровіч (Бабруйск) . | × | 1 | 1 | 0 | 1 | 1 | 1 | 5 | I |
| 2 | Сабалеўская (Барысаў) | 0 | × | 1 | 1 | ½ | 1 | 1 | 4½ | II |
| 3 | Гарб (Віцебск) . . . | 0 | 0 | × | 1 | 1 | 1 | 1 | 4 | III |
| 4 | Ліпман (Менск). . . | 1 | 0 | 0 | × | 0 | 1 | 1 | 3 | |
| 5 | Мотуз (Магілеў) . . | 0 | ½ | 0 | 1 | × | 0 | 1 | 2½ | |
| 6 | Расіхіна (Полацк) . . | 0 | 0 | 0 | 0 | 1 | × | 1 | 2 | |
| 7 | Кац (Менск). . . | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | × | 0 | |

Адсутнасьць вучобы і трэніроўкі вельмі сказалася на якасьці партый. Ні адна з партый ня годна да друку, бо амаль усе канчаліся не абгрунтаванымі „ахвярамі“ ферзей і іншых фігур.

## ХРОНІКА

**Магілеў:** Пасьля зьезду наступіў рашаючы пералом РСФКі бюро ФК Райпрофсавету зьвярнулі на шахматна-шашачную работу патрэбную ўвагу. Пры бюро ФК буйнейшых прадпрыемств Магілева ўтвораны шахматна-шашачныя сёкцыі, якія распачалі работу.

Асобна трэба адзначыць работу на шоўкавай фабрыцы, дзе інструктары фізкультуры праводзяць работу па шахматам і шашкам, нараўне з іншымі фізкультурнымі гульнямі. 18 жніўня на палітмасоўцы фізкультурнікаў фабрыкі быў праведзен майстрам Гардонам сэанс адначасовай гульні ў шашкі, які скончыўся з вынікам +30—0=0.

У газэце „Камунар Магілеўшчыны“ пачаў выходзіць шахматны аддзел пад рэдакцыяй Н. Е. Сташэўскага. Хв.

**Жлобін:** 1 на Жлобіну пасьля зьезду назіраецца ажыўленьне шахматна-шашачнай работы. Пры РСФК утворана ш-ш сэкцыя, якая распачала работу.

Выяжджаўшым сюды прадстаўніком ВСФКБ т. Кейлесам арганізавана і праведзена шахматна-шашачная частка фізкультурнай спартакіяды чыгуначнікаў Жлобінскага вузла.

К.

**Ніжэй зьмяшчаем цікавую партыю, іграную ў турніры на пяршынства Віцебска з заўвагамі майстра Сіліча.**

**Кацнельсон** (белыя) — **М. Сіліч** (чорныя)

1. d2—d4 Kg8—f6
2. c2—c4 e7—e6
3. Kb1—c3 Cf8—b4
4. Cc1—d2 c7—c5

З'іграна павярхоўна. Правільным працягам было-б 4... 0—0 5. Kf3 b6 6. e3, c:c3, 7. C:c3, Kf6—e4, які іграў Німцовіч супроць Аўэса, Берлін 1927 г.

5. d4—d5 . . . . .

мацней было 5.а 3.

5. . . . . . d7—d6
6. g2—g3 Kb8—d7
7. d5—e6 f7—e6
8. Cf1—g2 0—0!

Ахвяра пешкі, як паказвае бліскучая камбінацыя чорных, зусім правільна.

9. Kc3—b5 Kf6—g4
10. Cg2—f3

На 10 Kf3 пасьледуе Фb6 з наступным d5.

10. . . . . Kd7—e5!
11. Cd2:b4 c5:b4
12. Kb5:d6 . . . . .

Памылкай было-бы 12 Ф:d6, з-за 12. . . . . db 13 Ф:d8 1:d8, 14. Kc7, Ла7, 15. C5, Kpf7, 16. Kh3, h6, 17. Kf4, g5 і выйграюць.

12. . . . . Ke4:f2!!
13. Kpe1:f2 Фd8—b6+
14. Kpf2—g2 . . . . . .

Адзіны ход. Пры іншых адступленьнях караля немагчым ход 15. K:c8 пасьля 14. . . . . Лd8 з-за біцьця ферзя з шахам.

14. . . . . Лf8—d8
15. Kd6:c8 Ла8—c8!
16. Фd1—f1 . . . . .

Тут мацней было-б Фb3, аднак і пасьля гэтага ходу ў чорных значна лепш.

16. . . . . Ke5:c4
17. Фf1—f2 Kc4—e3+
18. Kpg2—h3 e6—e5!
19. g3—g4 . . . . . .

белыя прымушаны.

19. . . . . . g7—g5!
20. Kph3—g3 Фb6—d4

Ходам e5—e4 чорныя вярталі назад фігуру, але паслаблялі прамую атаку на караля.

21. h2—h4 h7—h5!
22. g4:h5 Фd4—f4+
23. Kpg3—h3 g5—g4+

і белыя здаліся.

Выданьне Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі.

Адказны рэдактар МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 2119. 3000 экз. Уп. Галоўлітбелу №а 871.